ПОГЛЯД

# Ад ідэі рэфарміравання экаміні на рынкавых прынцыпах да дзяржаўнага рэгулявання?

### Сітуацыя ў эканоміцы

У Беларусі не ўдалося хутка правесці сістэмнае рэфарміраванне эканомікі па прынцыпах рынкавага рэгулявання. Ажыццёўленыя паўмеры ў рэспубліцы, дзе чвэрць насельніцтва складаюць пенсіянеры і яшчэ чвэрць — люмпенізаваныя слаі ў працаздольным узросце, прывялі да таго, што ўлада палічыла за лепшае ісці не па шляху рынкавых рэформаў, а ў напрамку акумуліравання рэсурсаў у адных руках і распараджэння імі па прынцыпу затыкання дзірак.

Спробы адміністравання ў эканоміцы прывялі да яшчэ горшых вынікаў.

### Абменны курс

Адной з прыярытэтных задач развіцця эканомікі з'яўляецца развіццё экспарту. Аднак доўгачасовае штучнае падтрыманне курса беларускага рубля ва ўмовах пастаяннага росту затрат прывяло да стратнасці 80 працэнтаў усіх экспартных вытворчасцей.

Рост аб'ёмаў экспарту ў краіны СНД адбываўся ў асноўным за кошт павелічэння цэн. Адначасова рос аб'ём імпарту і павялічваўся агульны дэфіцыт гандлёвага балансу. Яго дэфіцыт перавысіў 1 млрд. долараў, у той час як за ўвесь 1995 год дэфіцыт склаў 777,4 млн. долараў.

Штучнае ўтрыманне абменнага курса запатрабавала прыняцця спецыяльных мераў па абароне ўнутраных вытворцаў імпартазамяшчальных тавараў, мераў па стымуляванню экспарцёраў. Пры гэтым не ўлічвалася, што высокія цэны на імпартазамяшчальныя тавары выклічуць павелічэнне вытворчых затрат экспарцёраў і зноў зробяць іх неканкурэнтаздольнымі.

### Рэгуляванне ўзроўню інфляцыі

У Беларусі ўдалося дабіцца зніжэння тэмпаў з 30—40 працэнтаў у месяц на пачатку 1995 года да 5 працэнтаў у месяц да лета 1995-га. Інфляцыя на працягу першых васьмі месяцаў 1996 года склала 21 працэнт.

Аднак у бліжэйшы час трэба чакаць рэзкага павышэння тэмпаў інфляцыі ў сувязі з выдзяленнем многім галінам ільготных крэдытаў. Гэта датычыць у першую чаргу сельскай гаспадаркі, будаўніцтва. Мяркуецца расшырыць праграмы дапамогі на будаўніцтва жылля, кампенсацый укладчыкам за абясцэненыя ўклады, а таксама падтрымаць сумніўныя праекты па кампенсацыі страчаных грошай укладчыкаў «фінансавых пірамід».

Надзея на тое, што эмітуемыя ў народнагаспадарчы абарот грошы не акажуць сур'ёзнага ўплыву на ўзровень інфляцыі ў выпадку, калі іх трымаць недасягальнымі для большасці насельніцтва, не можа быць прызнана сур'ёзнай. Як сведчыць сусветны вопыт, выдзяленне грошай на будаўніцтва жылля звычайна аказваецца надзвычай інфляцыйнай мерай, таму што пры гэтым не адбываецца значнага павелічэння прапанавання тавараў. Вытворчыя магутнасці будаўнічых арганізацый сёння загружаны не поўнасцю, хто мае грошы для будаўніцтва жылля — той яго будуе. Калі ж даюцца грошы тым, хто іх не меў, то гэтыя грошы праз прадпрыемствы будаўнічага профілю вельмі хутка паступаюць у народнагаспадарчы абарот і ўзмацняюць інфляцыю. Праекты ж кампенсацыі страчаных зберажэнняў і ўкладаў напрамую будуць павялічваць грашовую масу, якая знаходзіцца на руках насельніцтва.

### Фарміраванне рынкавых адносінаў

Дзяржава практычна не прымае мераў па развіццю рынкавай інфраструктуры. Выключэнне складае толькі развіццё рынку дзяржаўных каштоўных папер, закліканага папоўніць дэфіцыт дзяржаўнага бюджэту. Усяго за першую палову года было размешчана дзяржаўных кароткатэрміновых аблігацый у 12,5 раза больш, чым за адпаведны перыяд мінулага года. Механізм эмісіі дзяржаўных кароткатэрміновых абавязацельстваў усё больш нагадвае гіганцкую фінансавую піраміду, здольную ў пэўны момант рухнуць.

Замест фарміравання рынкавай інфраструктуры прымаюцца меры па адміністрацыйнаму ўздзеянню на эканоміку. У прыватнасці, ажыццяўляюцца меры па абмежаванню імпарту і рэгуляванню цэн. Для Беларусі імпарт тавараў мае жыццёва важнае значэнне для прадухілення манапалізму і стымулявання ўнутраных вытворцаў да эфектыўнай вытворчасці. Неабгрунтаваныя меры адміністрацыйнага пратэкцыянізму да беларускіх сельскагаспадарчых вытворцаў і ўстанаўленне фіксаваных цэн на шэраг харчовых тавараў ужо сёння прывялі да іх дэфіцыту з прычыны выгаднасці вывазу ў Расію.

Перспектывы ўзмацнення дзяржаўнага рэгулявання іншых бакоў эканамічнага жыцця ў рэспубліцы таксама не могуць быць прызнаны здавальняючымі. Яны ў канчатковым выніку толькі адцягваюць магчымасць прыняцця рэальных мераў па вываду эканомікі з крызісу. Калі ў 1990 годзе Беларусь з яе адносна развітой прамысловасцю і высокакваліфікаванымі кадрамі можна было параўнаць з Польшчай і краінамі Балтыі, то цяпер яна адкінута далёка назад і займае 112-е месца па плацежаздольнасці і ўзроўню развіцця бізнесу.

### Прыватны сектар

З сусветнага вопыту вядома, што масавая прыватызацыя з'яўляецца найбольш рэальным і перспектыўным спосабам хуткага развіцця эканомікі на рынкавых рэйках.

У Беларусі доля прыватнага сектара ў ВУП складае каля 15 працэнтаў, у той час як у іншых краінах Усходняй Еўропы — 50 —70. У прамысловасці прыватызавана толькі 10 працэнтаў прадпрыемстваў, у той час як у Расіі — 60, у сельскай гаспадарцы прыватызацыя практычна не пачыналася.

Галоўнай задачай развіцця прыватнага сектара эканомікі ў канцы васьмідзесятых гадоў было насычэнне спажывецкага рынку таварамі. Аднак агульны крызіс эканомікі і антырынкавая палітыка, якая праводзіцца ў рэспубліцы, прывялі да таго, што цяпер вытворчасцю рэальна можа займацца надзвычай малая колькасць прадпрымальнікаў, якія забяспечылі сабе вытворчы задзел да канца 1992 года, калі прадпрыемствы функцыянавалі пры адносна стабільных цэнах і існавала магчымасць атрымання доўгатэрміновых крэдытаў пад новае капітальнае будаўніцтва і мадэрнізацыю ўжо існуючых вытворчых магутнасцей.

### Дзе ўзяць грошы?

Пры дырэктыўнай эканоміцы галоўным з'яўляецца арганізацыя руху матэрыяльных патокаў, а грошы з'яўляюцца ў асноўным сродкам уліку гэтых патокаў. Пры фарміраванні рынкавай эканомікі на першы план выходзяць канкрэтныя фінансавыя рэсурсы, якія даюць магчымасць арганізаваць і ажыццяўляць рух вытворчага і гандлёвага капіталаў па ўсіх фазах грамадскай вытворчасці. На сучасным этапе, для паспяховага развіцця рынкавых адносінаў неабходна перш за ўсё вырашыць менавіта праблемы, якія звязаны з адшуканнем неабходных для правядзення рэформаў грашовых сродкаў. У гэтых умовах пытанні фарміравання заканадаўчай базы, спрыяльнай для развіцця рынкавых адносінаў, захавання кваліфікаваных кадраў, удасканалення транспартнай, энергетычнай і інфармацыйнай інфраструктур з'яўляюцца важнымі, але не першачарговымі.

### Развіццё рынку капіталу

Рэальная структурная перабудова эканомікі немагчыма без буйнамаштабных інвестыцый. Эксперты ацэньваюць памер інвестыцый, неабходных для вываду эканомікі Рэспублікі Беларусь з крызісу, на ўзроўні 60 млрд. долараў. З пункту гледжання сусветнай практыкі гэта не такая ўжо і вялікая лічба: замежныя інвестыцыі ў Кітаі склалі ў 1995 годзе каля 157 млрд. долараў, у Венгрыі — каля 8,4 млрд.

Крыніцы інвестыцый у эканоміку Рэспублікі Беларусь могуць быць наступнымі:

1. Бюджэтныя сродкі.
2. Сродкі айчынных суб'ектаў гаспадарання.
3. Экспрапрыіраваныя накапленні насельніцтва.
4. Замежныя інвестыцыі і дапамога міжнародных фінансавых арганізацый.

Хоць у выглядзе цэнтралізаваных фінансавых рэсурсаў дзяржавы акумулюецца больш як 50 працэнтаў ВУП рэспублікі, але на бюджэтныя рэсурсы, у плане доўгатэрміновых інвестыцый на структурную перабудову эканомікі, сур'ёзнай надзеі няма. Ужо відавочна, што дзяржаўны бюджэт на 1996 год будзе выкананы са значным дэфіцытам. Закон аб дзяржбюджэце на 1996 год дазваляў Нацбанку крэдытаваць урад у памеры 1,5 працэнта ад ВУП (на 170,5 млрд. руб.). Гэты параметр да пачатку кастрычніка быў перавышаны ўжо больш чым на 170 млрд. руб. Нават заработная плата работнікам бюджэтнай сферы будзе выплачвацца за кошт выпуску Мінфінам дзяржаўных кароткатэрміновых абавязацельстваў.

Практычна нічога немагчыма ўзяць і з беларускіх суб'ектаў гаспадарання. Дзяржаўная прамысловасць, як адзначалася раней, сёння з'яўляецца фактычным банкрутам і сама мае патрэбу ў дзяржаўнай падтрымцы. Палітыка фінансавых пабораў, якая праводзіцца ў апошнія гады адносна банкаўскай сферы (гэта датычыць крэдытаў на заработную плату і пад абаротныя сродкі) стратным прадпрыемствам сур'ёзнай дапамогі не аказала, але паставіла банкі на грань разарэння. Яны валодаюць не такімі ўжо і значнымі фінансавымі сродкамі: айчынныя банкі, якія дзейнічаюць у рэспубліцы, маюць сумарны ўласны капітал у памеры, які не перавышае капітал любога з другой дзесяткі расійскіх банкаў (ужо не гаворачы аб вядучых банках Расіі). Прычым памер уласнага капіталу беларускіх банкаў за 8 месяцаў 1996 года знізіўся на 340 млрд. руб. і склаў на 1 верасня 2 трлн. 807,6 млрд. руб. Адначасова ў выніку падзення курса нацыянальнай валюты скарацілася колькасць банкаў, якія маюць статутны фонд больш як 2 млн. ECU. На 1.04.1996 г. такіх банкаў было 19, на 1.10. — усяго 11.

Ажыццяўляюцца спробы забраць грошы ў прадпрымальнікаў.

Натуральна, што ў такіх умовах прадпрымальнікі не трымаюць значных сродкаў на рахунках беларускіх банкаў. Яны таксама ўсяляк стараюцца пазбавіцца ад нерухомасці ў Беларусі, асцерагаючыся, што яе проста рэквізуюць пад лозунгам «рэвалюцыйнай неабходнасці».

Пасля таго, як банкаўская сістэма рэспублікі і прадпрымальніцкая сфера за кошт узмацнення дзяржаўнага ўмяшання будуць даведзены да банкруцтва, наступнай ахвярай можа стаць насельніцтва.

Найбольш перспектыўнай крыніцай структурнай перабудовы эканомікі могуць быць замежныя інвестыцыі і дапамога зарубежных фінансавых арганізацый. У цэлым на сусветным фінансавым рынку штогадовы аб'ём свабодных для інвесціравання сродкаў складае каля 150 млрд. долараў. Праблема заключаецца ў тым, як раздабыць для рэспублікі частку гэтых рэсурсаў.

Прыцягненне замежных сродкаў цесна звязана з працэсам прыватызацыі. Вопыт Расіі паказвае, што практычна па ўсіх пазіцыях прыватызаваныя прадпрыемствы апярэджваюць сваіх дзяржаўных сабратоў. Але ў Расіі прыватызаваліся пераважна рэнтабельныя прадпрыемствы.

У Беларусі робіцца наадварот: дзяржава мае намер вывесці з дзяржаўнай уласнасці пераважна безнадзейныя прадпрыемствы і пакінуць пад кантролем больш-менш перспектыўныя гаспадарчыя структуры. Натуральна, што асаблівага попыту на іх не будзе і паступлення значных сродкаў у рэспубліку чакаць не прыходзіцца. У 1996 годзе ад правядзення прыватызацыі мяркуецца атрымаць усяго 450 млрд. рублёў.

Міжнародныя арганізацыі з-за зрыву праграмы прыватызацыі і невыканання рэкамендацый МВФ па правядзенню рынкавых рэформаў не аказваюць рэспубліцы сур'ёзнай дапамогі.

**Аляксандр ЛУЧАНОК,**
**кандыдат эканамічных навук, загадчык аддзела Інстытута эканомікі АН Беларусі.**

*(Заканчэнне будзе).*

Крайняй у літаральным сэнсе слова аказалася сядзіба Панаса Віктаравіча і Ганны Макараўны Тарановічаў у нашай дзяржаве. Зусім побач праходзіць мяжа другой дзяржавы — Украіны. Не хапае толькі нацягнуць калючы дрот ды заараць кантрольна-следавую паласу. «Няўжо такое можа адбыцца напярэдадні XXI стагоддзя?» — пытаюцца жыхары вёскі Сварынь Драгічынскага раёна, якія ўсё жыццё пражылі ў прыгожым лясным месцы непадалёку ад возера, дзе яшчэ стаяць на векавых дрэвах дзедавы калоды з пчоламі, і ніколі не думалі аб граніцы з сябрамі і сваякамі ва ўкраінскіх сёлах.

**Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА.**

## РОЗГАЛАС

*Падрабязнасці*

### СКАРАЧЭННЕ Ў ЯКАСЦІ «ПАДАРУНКА» ДА СВЯТА?

Паводле даных, атрыманых карэспандэнтам «Звязды» ў Федэрацыі прафсаюзаў, на мінскіх прадпрыемствах у снежні-студзені плануецца скараціць больш як 1600 працоўных (прычым названая лічба не з'яўляецца дакладнай — некаторыя суб'екты гаспадарання дасюль не вызначылі аб'ёмы выслабанення працоўных месцаў). Пакуль жа патэнцыяльная колькасць будучых беспрацоўных выглядае наступным чынам (па раёнах сталіцы): Заводскі — 117, Ленінскі — 91, Маскоўскі — 131, Кастрычніцкі — 499, Партызанскі — 86, Першамайскі — 364, Савецкі — 197, Фрунзенскі — 46, Цэнтральны — 159. Перш за ўсё, як лічаць спецыялісты, падобнае мерапрыемства неабходна для таго, каб неяк пратрымацца ў сённяшніх складаных эканамічных умовах. Тэндэнцыя да росту запазычанасці па выплаце заработнай платы таксама застаецца. Толькі па Мінску гэтая лічба складае 13,834 мільярда рублёў (з іх у прамысловасці — 5,8, у будаўніцтве — 5,9). Сярод прадпрыемстваў сталіцы самы вялікі доўг маюць Беларускае вытворчае аб'яднанне радыётэхнікі — 1,41 мільярда рублёў і завод імя Дзяржынскага вытворчага аб'яднання «Інтэграл» — 1,68.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

### БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКІЯ ПЕРАМОВЫ ПА АРГАНІЗАЦЫІ НОВЫХ ПАГРАНПЕРАХОДАЎ

Удзельнікі І польска-беларускай сустрэчы міждзяржаўнай падкамісіі па прыгранічным супрацоўніцтве ў Бяла-Падлясцы звярнуліся да міністраў транспарту Польшчы і Беларусі з просьбай аб найхутчэйшай мадэрнізацыі пад'язных трас да пагранперахода «Славацічы—Дамачава». Галоўная праблема гэтага перахода, як, зрэшты, і іншых, — нізкая прапускная здольнасць. Польская дэлегацыя, якую ўзначальвае белападляскі ваявода Тадэвуш Коршань, вяла перамовы аб тым, як мадэрнізаваць існуючыя пераходы Цярэспаль—Брэст, Славацічы—Дамачава, Кукурыкі—Казловічы, а таксама аб будаўніцтве новых пераходаў Хварасцяны—Бяляны; тэрміналаў Баброўнікі—Бераставіца і Кузніца Беластоцка—Брузгі. З вырашэннем гэтых пытанняў будзе спрошчана працэдура праходжання праз беларуска-польскую мяжу грузавых аўтамабіляў, якія маюць права на праезд праз мяжу без дагляду, і аўтобусаў.

На сустрэчы ў Бяла-Падлясцы абмяркоўваліся таксама планы ўвядзення новых пагранічных пераходаў мясцовага значэння для жыхароў Беларусі і Польшчы Ялуўка—Рыбалы, Ліпшаны—Соф'ева і інш. У Белавежскай пушчы бліжэйшым часам будзе створана некалькі пераходаў для турысцкіх трас.

**Святлана ЮЗІК, БелаПАН.**

### ЯК «ЦЕШЧЫН ЯЗЫК» ДОБРЫМ ЗРАБІЛІ

Пуцеправод праз чыгунку на аўтатрасе Магілёў—Бабруйск нездарма насіў у вадзіцельскім асяроддзі назву «цешчын язык». Вузкая праезная частка, крутыя віражы прыводзілі нярэдка да аварый і катастроф. Да таго ж са з'яўленнем аўтапаяздоў узнікла новая праблема: гэты ўчастак аказаўся не ў стане прымаць вялікагрузныя «фуры», а аб'езд быў шматкіламетровым. Як падлічылі ў Камітэце па будаўніцтву аўтамабільных дарог рэспублікі, «цешчын язык» штогод «злізваў» 2 мільярды рублёў.

Цяпер з каварным месцам пакончана. Адбылося ўрачыстае адкрыццё новага, выпрамленага пуцеправода, будаўніцтва якога абышлося бюджэту ў 18 мільярдаў рублёў. Аднак гэтыя выдаткі, асвоеныя дарожна-будаўнічым трэстам № 3 і першым мостабудаўнічым упраўленнем, акупяцца за 6 гадоў.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

### ТЭРМІН ПЕРАРЭГІСТРАЦЫІ СУМЕСНЫХ І ЗАМЕЖНЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ ПАДОЎЖАНЫ НЕ БУДЗЕ

Да 1 студзеня 1997 года ўсе замежныя і сумесныя прадпрыемствы, што дзейнічаюць на тэрыторыі Беларусі, — а гэта амаль тры тысячы прадпрыемстваў — павінны прайсці перарэгістрацыю.

Аднак, паводле даных Міністэрства знешніх эканамічных сувязей, на пачатак снежня перарэгістрацыю прайшлі толькі каля 11 працэнтаў прадпрыемстваў з замежным капіталам. Нягледзячы на гэта, як паведамілі ў МЗЭС, тэрміны перарэгістрацыі падоўжаны не будуць. Не выключана, што з наступленнем новага года будзе разглядацца пытанне аб ліквідацыі прадпрыемстваў, якія не выканалі патрабавання аб перарэгістрацыі.

**Наталля КУЛАГІНА, БелаПАН.**

### ЗНАЙШЛА ПОПЫТ «БОМБА»

Калі ў вас пасля сустрэчы Новага года застануцца бутэлькі з-пад шампанскага, не спяшайцеся выкідваць іх на сметнік. Вязіце ў Магілёў.

Пасля шматгадовага перапынку гэтую шклатару, у адрозненне ад гарэлачнай, пачалі прымаць у горадзе на Дняпры ўсе пункты арэнднага прадпрыемства «Магілёўтара». Прычым у неабмежаванай колькасці. Па 500 рублёў за бутэльку.

Такая неверагодная па нашым часе паслуга (кошт «Советского шампанского» ўключае ў сябе і цану бутэлькі, таму яна лічыцца незваротнай) стала магчымай дзякуючы прадпрымальным расіянам, якія аднаўляюць выпуск шыпучых він і «бомбы» шукаюць у блізкім замежжы.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

*Млыны Дон-Кіхота*

## Расказ пра тое, як сын пуцявога абходчыка царскую волю выканаў

ПРАДБАЧУ рэакцыю рэктара Віцебскага дзяржаўнага універсітэта акадэміка Віктара Вінаградава, калі ён прачытае сваё прозвішча ў газеце пад рубрыкай «Млыны Дон-Кіхота». Як ён узніме на лоб «прафесарскія» акуляры, што надаюць халодна-металічны бляск вачам, зробіць строгі твар, а потым хітрынка-ўсмешка мільгне на губах, і ён-такі ацэніць журналісцкую знаходку — вартую рубрыку. Сам некалі быў членам Саюза журналістаў СССР — як актыўны грамадскі карэспандэнт. А накант таго, што «пасялілі» яго на газетнай паласе пад такой рубрыкай... А хто ён, калі не рыцар Ламанчскі? Адно толькі не сумнага вобраза.

Аптымізму прафесар начартальнай геаметрыі і кіраўнік аднаго з буйнейшых на Беларусі (і самага старэйшага з педагагічных) ВНУ не страціў. Хоць выпрабаванні вытрымлівае, бадай, не меншыя, чым іспанскі ідальга.

Але такога дабра, як выпрабаванні, сёння ў кожнага кіраўніка — вышэй галавы, і не тым выклікана гаворка. Член-карэспандэнт Беларускай акадэміі адукацыі, акадэмік Міжнароднай акадэміі інфармацыйных працэсаў і тэхналогій Віктар Вінаградаў цікавы якраз тым, што яму ўдаецца, а не тым, як вая з ветранымі млынамі.

І ўсё ж размова пачалася з таго, што не ўдаецца. А не ўдаецца мастаку Віктару Вінаградаву ўдосталь пасядзець над распрацоўкамі па графіцы, заняцца тэорыяй мастацтва, да чаго цягнула, проста выкладаць маляванне ў школе, як марыў. Рэдка калі надараецца пачытаць Твардоўскага, схадзіць па грыбы, расцягнуць мяхі гармоніка ў вузкім коле сяброў і паназіраць за гульнёй унука з ангорскім кацянём. Затое, не таіў задаволенасці Віктар Ніканавіч, удалося выканаць царскі (!) загад векавой даўнасці.

Адшукалі ў архівах дакументы, якія сведчылі аб волі цара Мікалая ІІ стварыць на Беларусі універсітэт еўрапейскага ўзору. Камісія тамтэйшага Міністэрства асветы, якой даручана было выканаць царскую волю, знайшла, што найбольш прыдатны для таго... Віцебск. Аднак і царскія загады, аказваецца, траплялі надоўга «пад сукно». А потым не стала самога цара. І толькі праз век на базе педагагічнай ВНУ адкрыўся універсітэт класічнага тыпу.

СПРАВА, якой прысвяціў шмат сіл і нават адной ёю (калі не бачыць іншага) спаўна пацвердзіў сваё права сядзець у рэктарскім крэсле, лічы, зроблена, а Віктар Ніканавіч дамагаецца выканання новай задачы: Віцебшчыне патрэбны не толькі выкладчыкі, але і вучоныя. Здавалася б, добры намер, і што яму проціпаставіш? Аказваецца, зялёнай дарожкі таксама ніхто не сцеле. Маўляў, вучоных і без Віцебска процьма, да таго ж аспірантура ёсць, абараняйцеся паціху па плану, ды рыхтуйце добрых настаўнікаў. А рэктар Вінаградаў — зноў з праджэктамі.

— Наш універсітэт павінен быць навуковым, асветніцкім і культурным цэнтрам Беларускага Паазер'я, — дзеліцца з журналісткай, адчуваючы ў маёй асобе (дзякуй яму за тое) аднадумцу (ці аднадумніцу?). — У яго многае ёсць для таго: навуковы патэнцыял — 250 выкладчыкаў з 450 маюць навуковыя ступені, у тым ліку 19 прафесараў і дактароў навук. Ледзь не 5 тысяч студэнтаў, многія з іх прагнуць унесці ўклад у гісторыю краю.

Што ж, статус універсітэта дазволіць у дадатак да 32 тысяч падрыхтаваных ужо настаўнікаў выпускаць у свет спецыялістаў з дыпломамі бакалаўраў ды магістраў, пашыраць дыяпазон навучання. Толькі год універсітэту, а ён паспеў ужо дадаць да пераліку спецыяльнасцей некалькі новых: фізіка, прыкладная матэматыка, біялогія і ахова прыроды, гісторыя, масавая аздараўленчая работа і турызм. А група фізікаў атрымае дыпломы Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта імя Міхаіла Ламаносава. Па дамоўленасці з прэстыжнай расійскай ВНУ ў Віцебску прымаюць абітурыентаў, ажыццяўляюць разам з маскоўскімі выкладчыкамі іх навучанне, і толькі на апошнія курсы запрасяць студэнтаў у сталіцу. Згадзіцеся, выдатная магчымасць у сённяшніх умовах, амаль не адрываючыся ад дому, атрымаць маскоўскую адукацыю.

ЯШЧЭ ДА ВАЙНЫ Віцебск выдаваў «Вучоныя запіскі». Сёння ён аказаўся адарваным ад навуковай інфармацыйнай прасторы, да якой далучаўся праз Расію — не ў апошнюю чаргу. Тут ужо нічога не зробіш, хіба што пашукаць сувязей напрамую. А вось аднавіць выдавецкую дзейнасць змаглі. Штогод выходзяць некалькі падручнікаў і дапаможнікаў, аўтары якіх — выкладчыкі з Віцебска. У тым ліку і кнігі Вінаградава. Разам з сааўтарамі ён напісаў школьны падручнік па геаметрыі, які вытрымаў дзесяткі выданняў на 19 мовах. Нядаўна ў чарговы раз выйшаў у свет для расійскіх школ, рыхтуецца да друку і для беларускіх.

Сёння ВНУ можа пахваліцца і зусім унікальнымі з'явамі, скажам — выданнем навуковага часопіса «Дыялог. Карнавал. Хранатоп». Ён увайшоў у бібліятэчныя каталогі буйнейшых універсітэтаў свету. Яго чытаюць у ЗША, Англіі, Германіі, Канадзе, Японіі... Часопіс прыцягнуў увагу тым, што разглядае самыя значныя з'явы сусветнай культуры, у тым ліку сучаснай, праз прызму творчасці віцебскага філосафа пачатку стагоддзя Міхаіла Бахціна. Аказваецца, гэта цікава ва ўсім свеце, а імя віцебскага вучонага, здаецца, за мяжой ведаюць лепш, чым на радзіме. Гэтак жа як імёны ўраджэнцаў Віцебшчыны — творцаў мінулага Язэпа Драздовіча, Ігната Буйніцкага, Івана Хруцкага, Яна Баршчэўскага...

Вядома, рэктар сам не павярнуў бы такія «млыны», ды ў калектыве ён не адзін такі. Часопіс пра Бахціна — дзецішча дацэнта Мікалая Панькова. Дзякуючы і яго «дыялогам» з філосафам мінулага, 100-годдзе мысліцеля адзначалася летась у Маскве, Любляне і іншых месцах, дзе акрамя Віцебска выкладаў літаратуразнаўца і філосаф. А ў Віцебску пачалі праводзіць міжнародныя Бахцінскія чытанні.

«Дзівакоў» шмат ва універсітэце. Напрыклад, выкладчык Уладзімір Піскуноў прысвяціў жыццё выемчатакрылай молі. Ён апісаў каля 70 відаў, якія да яго не былі вядомы навуцы. Бібліятэка аматара насякомых вядома біёлагам свету. Кнігі, навуковыя працы і калекцыя, якія ён сабраў, сталі найбольш каштоўнымі экспанатамі заалагічнага музея, заснаванага Піскуновым 20 гадоў назад. А вось захапленне яго калегі, малодшага навуковага супрацоўніка Ігара Саладоўнікава, які збірае матылькоў, цалкам ужо можна зразумець. З пяцігадовага ўзросту сабраў каля 100 тысяч, яны ў яго кватэры — замест шпалераў. Ды яшчэ — 7 тысяч жужаляў, для якіх характэрна тое, што ўсе яны — прадстаўнікі Беларускага Паазер'я.

ДЫ ПРЫ ЧЫМ ТУТ ЧАРЦЁЖНІК Віктар Вінаградаў? Адным паветрам дыхаюць, у адным калектыве яны. Як і з першым прарэктарам Анатолем Дарафеевым. Былы міністр аховы навакольнага асяроддзя, акадэмік Міжнароднай акадэміі экалогіі, асацыіраваны член Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі, член-карэспандэнт Пятроўскай акадэміі навук і мастацтваў вярнуўся ў Віцебск, паводле аднаго з тлумачэнняў, каб разгадаць загадку «Тараса на Парнасе», якая хаваецца, на думку вучонага, на яго роднай Гарадоччыне.

Тым часам Віктар Ніканавіч паспеў сфармуляваць свой чарговы донкіхоцкі, прабачце, тэзіс: вывеў матэматычную мадэль рэгіёна пад назвай «Беларускае Паазер'е». Гэта, па сутнасці, праграма эканамічнага развіцця рэгіёна, пабудаваная на разумным выкарыстанні прыродных рэсурсаў з захаваннем экалагічнай раўнавагі. Кабінет Міністраў зацвердзіў праграму даследаванняў «Беларускае Паазер'е: прыродныя рэсурсы, матэрыяльная і духоўная культура».

ВАЖНЫЯ ПЕРАМОГІ атрымліваюць вучоныя ў змаганні за ўсё жывое. Кожная перамога — вялікая, малых тут не бывае. Створаны нацыянальны парк «Браслаўскі», эколагі хадайнічаюць над наданнем такога ж статусу «Паазерскаму», пад Полацкам. Ахоўная зона на Віцебшчыне павялічылася ўдвая за два апошнія гады. Ахоўваюцца дрэвы і птушкі, жывёлы і рэдкія расліны, нават грыбы і лішайнікі. Універсітэт завяршыў работу над падрыхтоўкай кадастру рэдкіх птушак і тых, што знаходзяцца пад пагрозай знікнення.

Але распрацаваныя з дакладнасцю матэматычнай мадэлі праграмы нічога не вартыя, калі не стануць яны нормай паводзінаў для кожнага чалавека. Дзесяткі кіламетраў прайшлі выкладчыкі ў вольны ад лекцый ды семінараў час, знайшлі шэсць гнёздаў рэдкага чорнага бусла, адзінкавыя гнездаванні чорнавалёвай гагары, лебедзя-шыпуна, шэрага сакрыуша... А ці пашкадуе іх чалавек?

Ветраныя млыны сталі на Віцебшчыне музеямі не без падказкі навукоўцаў. А з дапамогай іх разлікаў распрацаваны праекты зусім сучасных ветракоў. Для будаўніцтва першага з іх выбрана нават мясціна ў Лёзненскім раёне. Праўда, да яго ўзвядзення пакуль не прыступілі — грошай не знайшлося. Шкада ўсё ж — экалагічна чысты сродак атрымання энергіі. У праграму развіцця Паазер'я арганічна ўпісваецца. І ў карціну, якую малюе газета сваёй новай рубрыкай...

**Вольга ШУМІЛІНА.**

*Крык душы*

## Мне так хочацца быць здаровай. Дапамажыце!

***Паважаная рэдакцыя «Звязды»!***

***Даўно збіралася вам напісаць, але не рашалася. Аднак ў адзін «цудоўны» вечар, са слязамі на вачах, вырашыла расказаць пра сваё няшчасце.***

***Мне 26 гадоў. Працую ў дзіцячым садзе выхавальніцай. Разведзена, маю дачку, якой цяпер пяць з паловай гадоў, атрымала двухпакаёвую кватэру. Здаецца, усё добра, але дзе там.***

***Я захварэла. Мне паставілі дыягназ: рассеяны энцэфаламіяліт, цэрабра-спінальнай формы, першай ступені цяжкасці з левабаковай пірамідынай недастатковасцю, стадыя рэмісіі. Дзе я толькі не ляжала: і ў Мінску, і ў Гродне. Урачы сказалі, што захворванне сур'ёзнае, трэба берагчы сябе. Я даведалася, што яно не вылечваецца. Але я не веру, павінен жа быць канец хваробы. Мне так хочацца быць здаровай, бачыць, як расце дачка.***

***Калі ласка, апублікуйце маё пісьмо. Можа, хто-небудзь хварэў, ведае пра гэту хваробу што-небудзь, накіруе мяне на правільны шлях. Прашу: дайце мне параду, рэкамендацыі наконт майго захворвання. Загадзя ўдзячная.***

***З павагай***

***Жанна БУЦКЕВІЧ.***

***г. п. Карэлічы.***

Пракаменціраваць гэта пісьмо рэдакцыя папрасіла **намесніка начальніка Галоўнага ўпраўлення медыцынскай дапамогі Міністэрства аховы здароўя Генрыха КАРНІЦКАГА:**

— Дыягназ хваробы, які ўказаны ў пісьме, сведчыць аб тым, што яна, хутчэй за ўсё, на жаль, невылечная. Сапраўды, рассеяны склероз — захворванне сур'ёзнае і не заўсёды паддаецца лячэнню. І справа яшчэ ў тым, што якраз менавіта ў маладым узросце людзі і пакутуюць ад такой хваробы.

Я не хачу канчаткова засмучаць гэту жанчыну, як і не магу даваць ёй нейкіх канкрэтных рэкамендацый, таму што я не неўрапатолаг. А менавіта ён тут павінен сказаць сваё слова, зрабіць правільнае заключэнне.

Адно скажу, што мы можам, дык гэта арганізаваць хворай сустрэчу з такімі спецыялістамі, каб яны ўдакладнілі зусім пэўны дыягназ. Для гэтага няхай Ж. Буцкевіч звернецца ў наша ўпраўленне, і мы напішам ёй накіраванне ў Беларускі навукова-даследчы інстытут неўралогіі, нейрахірургіі і фізіятэрапіі, каб яе нам пракансультавалі на самым высокакваліфікаваным узроўні і вызначылі, як і чым можна, калі гэта магчыма, дапамагчы.

Такія хваробы ў розных людзей працякаюць па рознаму: у адных лягчэй і хутчэй, у другіх — цяжэй, больш складана і марудна. У такім выпадку задача медыкаў — прыпыніць працэс, не дапусціць, каб ён працягваў праграсіраваць.

Варта сказаць: ні адзін урач без дэталёвага абследавання хворага дыягназ яму не ставіць і парады не дае. Гэта робіцца толькі пры асабістым аглядзе кожнага пацыента. Ёсць, вядома, і агульныя рэкамендацыі па спосабу жыцця, паводзінах, іншых акалічнасцях.

***А яшчэ ваша чытачка можа звярнуцца ў Беларускую асацыяцыю хворых на рассеяны склероз. Адрас яе: 220012, г. Мінск, вул. Калініна, 7. тэл. 66-66-23.*** Магчыма, там гэтай хворай жанчыне параяць нейкія медпрэпараты, адпусцяць лекі ўвогуле бясплатна, дадуць добрую параду, акажуць маральную ці матэрыяльную дапамогу. Свет, як кажуць, не без добрых людзей.

36,6°

## СЛЕД КЛЯШЧА

**Ёсць брыдкія хваробы. Венерычныя, педыкулёз (вошы), кароста. Пра іх няёмка казаць. Гэтак жа непрыемна даведацца, што цябе абзываюць ну, напрыклад, каросліўым. Даводзь пасля, што заразіўся выпадкова. Але за такія хваробы павінна быць брыдка не чалавеку, а дзяржаве. Яны — паказчык сацыяльнай нестабільнасці, адсутнасці дастатку. Летась на Беларусі зарэгістравана ажно 26 тысяч 371 чалавек хворых на каросту. Цэлы горад! Лічбы вельмі ўражальныя.**

**— І несапраўдныя, — сказала знаёмая доктарка. — Ёсць устаноўка іх змяншаць, каб сітуацыя не выглядала такой жахлівай.**

**Яе словы насцярожылі: няўжо вяртаемся да былых часоў, калі, паводле афіцыяльных звестак, такіх сацыяльных хвароб існаваў мізэр, бо яны не стасаваліся са светлым аблічам сацыялістычнай рэчаіснасці.**

### З горада — у вёску. І назад

Факт: хворых на каросту болей, чым зарэгістравана афіцыяльна. Сам з гэтым сутыкаўся. Можна сказаць, памацаў паганага кляшча сваімі рукамі. Дарэчы, не лішне будзе ведаць крыху спецыяльнай інфармацыі пра хваробу. У якасці лікбезу.

З'яўленне каросты выклікаецца асаблівым відам кляшча. Пад мікраскопам можна ўбачыць гэткую маленькую чарапашку. І жыве ён толькі на скуры чалавека.

Хвароба — заразная. Паціснуў руку ці пацалаваўся не з тым — і захварэў. Ці рэчамі хворага карыстаўся. Як ні дзіўна, заразу можна падчапіць нават у лазні.

Самка кляшча, трапляючы на скуру, пракладвае там хады і адкладвае яйкі. Кляшчы пладавітыя. У чацвёртым пакаленні патомства самкі можа дайсці да 240 тысяч.

Калі, крый Божа, засвярбела цела і на ім з'явіліся прыпухлыя вузельчыкі — звяртайцеся да доктара.

Дзятва майго сябра і самі бацькі адразу гэтага не заўважылі. А мо не звярнулі асаблівай увагі. Прывезлі хлапчука і дзяўчынку на летнія канікулы ў вёску. Пакінулі з дзедам і бабуляю. Тыя — людзі адукаваныя. Перажылі вайну. Але, як пасля высветлілася, каросты ніколі не бачылі. Таму, выклікаючы праз некалькі дзён дачку, думалі пра нешта алергічнае.

Матуля адчула бяду. Прыхапіла дзяцей і — у сталіцу. Прыехаўшы, патэлефанавала сяброўцы. Выпускніца фармацэўтычнага інстытута ўзяла медыцынскі даведнік. Зверылі сімптомы. Усё паказвала на каросту. А тут ужо й сама маці чухацца пачала. Толькі бацьку клешч не зачапіў.

Спачатку суседка-медсястра параіла змазацца нейкім серным растворам. Узялі па блату рэцэпт. У аптэцы зрабілі раствор. Мажуцца — не дапамагае.

Тады выпускніца фармацэўтычнага інстытута кажа:

— Усё лухта! Дапамогуць толькі растворы паводле Дзем'яновіча.

Знаёмы загадчык аптэкі зрабіў іх. Пры гэтым з уласцівым медыкам пэўным цынізмам пасмейваўся:

— Адразу трэба было сказаць. Я сваіх дачок такім чынам вылечыў.

Вось вам два выпадкі з незарэгістраваных.

Сям'я сябра вылечылася.

Паправіўшыся, выкіпяціўшы ўсю бялізну, пачалі шукаць прычыну хваробы. Выпадкова даведаліся, што хлапчукова група ў садзіку на каранціне.

Але ж летам не адзін ён паехаў да бабулі. Значыць хворых было болей. І, думаю, не ўсе ішлі ў паліклініку.

Вядома, віны ўрачоў тут няма. Усіх адсочваць не могуць. Але факт застаецца фактам.

### Пагартаў сшытак — мый рукі

Мая жонка-настаўніца, пачуўшы пра тое, што, магчыма, заніжаюць колькасць хворых на каросту, сама падзялілася інфармацыяй:

— Не здзіўляюся. Наша фельчарка днямі раіла ўсім настаўнікам часцей мыць рукі: пасля праверкі сшыткаў ці дзённікаў. Менавіта з-за каросты.

Недалёка ад майго жытла — школа. Туды і накіраваўся.

Фельчар — па ўсім відаць, жанчына шчырая і адкрытая — была стрыманай.

— А чаму менавіта ў нашу школу прыйшлі?

Тлумачу пра збег абставін. Неяк разгаварыліся. Ёсць праблема. Асабліва пасля канікулаў. І не толькі з каростаю. Вошы, мікраспарыя — лішай. На вёсцы ў двары дзеці гуляюць з жывёламі і заражаюцца. Таму адразу ў пачатку навучальнага года правяраюць школьнікаў, а пасля штотыдзень выбарачна класы.

— І шмат выпадкаў каросты?

— Бывае... Але ж я не стаўлю дыягназ. Накіроўваю пасля агляду на абследаванне. Калі адтуль не прыйшло пацвярджэнне — значыць не кароста.

Выявіць жа яе няпроста. Наталля Прыбуткоўская — пазнаёміцца адразу адмаўлялася, маўляў, напішу лішняе, а яе пакараюць — адна абслугоўвае больш чым паўтары тысячы чалавек. А Шабаны — мікрараён, дзе месціцца школа, не з прэстыжных.

Наталля Фёдараўна расказала, як у аднаго са школьнікаў знайшла вошы. Адправіла дамоў, каб той з матуляй ішоў у паліклініку. Маці прыбегла, узняла вэрхал: «Як гэта ў майго дзіцяці вошы? Навошта зняславіла на ўсю школу?!»

— Дзеці ж невінаватыя. Пасля такога хоць у клас не паказвайся. Цураюцца іх, здзекуюцца, — разважала фельчарка. — Таму, калі нешта заўважаю, то ціхенька шапну, а запіску-накіраванне стараюся аддаць так, каб ніхто не заўважыў.

І яшчэ адна непрыемная дэталь. Шмат фактаў каросты і педыкулёзу з'явілася, калі тут пасяліліся перасяленцы з чарнобыльскай зоны. (Гэта мне пасля пацвердзілі і ў Мінскім скурна-венералагічным дыспансеры.) Напэўна з-за турбот, ды і ў дарозе ўсялякую заразу можна падхапіць. У цягніках, напрыклад. Невядома, як тыя ж прасціны дэзінфіцыруюцца.

Пра гэта варта памятаць і «чаўнакам». Едуць удалячынь, невядома дзе спяць. Часта гуртам. Ды і тавар Бог ведае ад каго бяруць. Так што кароста дабіраецца да нас і транзітам.

Гутарка з фельчаркай дала ўяўленне пра некаторыя рэчы. Кароста — хвароба распаўсюджаная. Хаваць гэтыя факты нібыта і небяспечна — зараза можа пайсці далей. Але калі іх будзе зашмат, фельчара пакараюць. За кепскую асветніцкую работу.

Між іншым, па канкрэтных фактах і прозвішчах Наталля Фёдараўна так нічога і не сказала. Абмінала гэту тэму.

### На Прылукі... па інфармацыю

На вуліцы Прылукскай у Мінску знаходзіцца знакаміты скурна-венералагічны дыспансер. Накіраваўся туды шукаць адказы на свае пытанні.

Чакаю тралейбус. У аднаго з мужчын пытаюся:

— Вы не скажаце, на якім прыпынку Прылукская?

Той адмоўна паківаў галавою, падазрона глянуў і нават крыху адышоў. Перапытваю ў хлопца, які стаяў побач. У адказ:

— Чаму вы думаеце, што еду туды?..

— Я проста пытаюся.

— Паедзем разам, пакажу.

Пасля, разгаварыўшыся, высветліў, што ён сапраўды накіроўваецца ў дыспансер:

— Ганарэя ў мяне. Восьмы раз выклікаюць.

Справа ў тым, што Прылукская ў Мінску асацыіруецца з венерычнымі хваробамі. Неяк нават у шапіку ўбачыў на адным з тавараў надпіс: «Купляйце гэтыя штукі, каб не трапіць на Прылукі». Прадавалі прэзерватывы.

Многія проста забываюць, што лечаць там усе хваробы скуры.

Спачатку сустрэўся з намеснікам галоўнага ўрача Аленай Каваленка. Яна расказала, што ў Мінску акрамя цэнтральнага дыспансера маюцца яшчэ два філіялы, каб больш людзей ахапіць. У канцы месяца фіксуюцца ўсе даныя. Звяраюцца з санстанцыяй. Запускаюцца ў камп'ютэр. Калі ў школе за кароткі перыяд зарэгістраваны два выпадкі каросты, туды накіроўваюцца спецыялісты з дыспансера. Алена Уладзіміраўна пацвердзіла, што ў такім выпадку вінаватай лічыцца фельчарка. Не дагледзела. Кепска вяла асветніцкую работу. Агляд жа хворых і тых, з кім яны кантактавалі, праводзіцца строгі.

Галоўная прычына такой колькасці хворых на каросту — міграцыя.

— Але і нізкая санітарная культура таксама, — дадае Алена Уладзіміраўна. — У нашым дыспансеры хворых шмат. Але не было выпадку, каб заразіўся доктар. Хаця ў пальчатках не ходзім. Проста часта мыем рукі. Людзям растлумачваць трэба: праз газеты, радыё, тэлебачанне.

Аказваецца, урачы вядуць прапаганду і ў самых нечаканых месцах. Нават на Камароўскім рынку.

Цяпер пра статыстыку. За сёлетнія 11 месяцаў у Мінску зарэгістравана 1808 выпадкаў каросты, 1175 — мікраспарыі. У параўнанні з мінулым годам колькасць хворых скарацілася на 48 працэнтаў!

Звярніце ўвагу. Скарачэнне відавочнае.

Найбольшая колькасць выпадкаў у Брэсцкай (3601) і Гомельскай (3329) абласцях.

Па ўсёй краіне ў параўнанні з мінулым годам хворых стала менш на тры з паловай тысячы.

Да нашай гутаркі далучыўся галоўны ўрач Юрый Салук. Дактары шчыра дзяліліся інфармацыяй, клопатамі. Напрыклад, норма для доктара ў гадзіну прымаць да васьмі чалавек. Паспрабуй быць дастаткова пільным. Расказалі пра дыспансер. Ёсць тут і стацыянар для хворых на каросту і мікраспарыю. Апошняя хвароба цяжка вылечваецца, калі лішай на галаве. І таксама вельмі распаўсюджаная. Дзеці заражаюцца ад кошак.

Урачы гаварылі шчыра, а мне было няёмка. Юрый Уладзіміравіч кажа:

— Даўно нашымі праблемамі рэспубліканская прэса не цікавілася...

Не вытрымаў, прызнаўся, чаму я заняўся гэтым.

— Ды вы што?! — рэакцыя была вельмі эмацыянальная. — Як хаваць факты?! Калі так рабіць, эпідэмія можа пачацца.

— Дык няўжо спад хваробы толькі з-за вашай прапаганды і агітацыі?

— Безумоўна. Людзі становяцца больш граматнымі і не зацягваюць хваробу. Больш уважлівыя цяпер і фельчары.

Дылема: верыць ці не верыць? Калі верыць, то гонар і вялікі дзякуй урачам. «Малайцы» — нават не тое слова.

У канцы нашай гутаркі я зразумеў галоўнае.

Не важна — падманваюць лічбы статыстыкі ці не. Кароста — сацыяльная хвароба. Я нездарма даў артыкулу такі загаловак. З аднаго боку, клешч — носьбіт каросты. З другога — наша рэчаіснасць, як клешч. Яна ўлазіць у наша жыццё са сваімі жудаснымі, першабытнымі рэаліямі. Калі жыццё чалавечае нічога не вартае. Страх і няпэўнасць — вынікі гэтай грамадскай каросты. Адгэтуль і з'яўленне ў канцы XX стагоддзя ў цэнтры Еўропы такіх хвароб. Нездаровае грамадства спараджае іх.

**Міхась ТАЛОЧКА.**




Выпуск № 343 Рубрыку вядзе Мікалай ЧАХОЎСКІ

# Перапіска з чытачамі

**Аляксандру АЛЕСІНУ,**
*Мінскі раён*

Вапнаванне глебы — неабходнае мерапрыемства. Праводзіцца не радзей чым раз у тры гады. Што ўказвае на кіслотнасць? Жвавае развіццё такіх раслін, як дарожка, макрыца, конскае шчаўе, трыпутнік, асака, рост на агародзе рознай зялёнай цвілі. Аналізы трэба рабіць у спецыяльных лабараторыях аграхімслужбы. Яны ёсць у кожным раёне. Пазваніце ў аддзяленне «Сельгасхіміі», і вам дадуць адрас.

Кіслотнасць пазначаецца лацінскімі літарамі ph. Калі паказчык ніжэй за лічбу 6, глебы вапнаваць абавязкова, бо нават вялікая доза ўгнаенняў не дасць станоўчага выніку. Карысныя рэчывы будуць пераходзіць у такі хімічны стан, які караням будзе недаступны. Лічбы ад 5 да 6 указваюць на слабую кіслотнасць, а вышэй за 6,5 — блізкую да нейтральнай. На прысядзібным участку лепш за ўсё мець кіслотнасць 6,5—7,5 (ад слабакіслай да нейтральнай і нават слабашчолачнай).

Пры вапнаванні (самы даступны ў Беларусі прэпарат — даламітавая мука) улічваецца састаў глебы. Калі супясчаная і крыху глiністая, то колькасць даламітавай мукі меншая. На сярэднягліністай і «цяжкай» даваць яе ў два разы больш. У любым выпадку 2-3 кілаграмы даламітавай мукі на 10 кв. метраў шкоды не прынясуць. Яны дазваляць так званаму пладароднаму слою глебы страціць агрэсіўную кіслотнасць. Многія элементы сілкавання (у тым ліку і галоўны з іх — фосфар) атрымаюць «вольную» і будуць даступныя для раслін.

Што яшчэ можна выкарыстаць для вапнавання, акрамя даламітавай мукі? Такіх «дапаможных» сродкаў нямала. Гэта і падобная на муку крэйда (мел), попел, гашаная вапна, нават пылападобнае шалупінне курыных і гусіных яек.

Гашаная вапна — вельмі канцэнтраваны хімічны элемет. Яе ўносіць у 2,35 раза менш, чым, скажам, даламітавай мукі. Попел утрымлівае многія мікраэлементы. Але больш за ўсё фосфару, калію і асабліва кальцыю. Апошні якраз і нейтралізуе глебу. Колькасць попелу павялічваць у пяць разоў у параўнанні з даламітавай мукой. Скажам, калі на 10 кв. метраў унеслі 3 кг даламіту, то попелу трэба ўнесці аж паўтара вядра, каб дасягнуць аднолькавага ўзроўню па кальцыю. Крыху менш даваць шалупіння птушыных яек (да вядра). Попел лепш уносіць вясною, а шалупінне і даламітавую муку — восенню.

**Мікалаю АБОРСКАМУ**
*(Бабруйск) і іншым чытачам, якія званілі ў рэдакцыю.*

Брыкет нарыхтоўваецца там, дзе глыбіня залягання торфу вельмі вялікая. Часцінкі амаль цалкам згнілі. І гэта быццам бы добра. Але ў час прасавання «цаглінак» выкарыстоўваюцца дадаткі. Яны непажаданыя. Адказ на ваша пытанне станоўчы, калі выкарыстоўваць тарфакрошку да прасавання. Асабліва добра такі матэрыял патрымаць на ветрыку, крыху падсушыць, прамарозіць, узбагаціць. Яго можна выкарыстоўваць пад усе культуры і нават для расады. Толькі памятаць, што фосфару ў той тарфакрошцы нямнога. І вельмі мала калію.

Пры спальванні брыкету азот улятучваецца, калію і кальцыю амаль няма, траціцца і частка фосфару. Попел аказваецца вельмі слабым памочнікам. Да таго ж у ім нямала глею. Яго можна выкарыстаць толькі на пясчаных глебах. Але карысці будзе — што кот наплакаў.

**Арцёму КАЗЛОВУ,**
*г. Мінск*

Свінні надзвычай акуратныя жывёліны. Яны ніколі не парушаюць «традыцыі» і не абсталёўваюць свой туалет паблізу таго месца, дзе спяць. Калі гэта здарылася з вашымі падапечнымі, то шукайце прычыну ў самім загончыку-куточку. Спраўляць туалет свіння адыходзіць ад месца сну на 2,5—3 (можа і болей) метры. Гаспадар робіць агароджу такім чынам, каб яна не была квадратнай. Лепш за ўсё выцягнуты прамавугольнік 2х4 метры, ці 2,5х3,5 метра (могуць быць іншыя падобныя камбінацыі). Чысцюля заўсёды адыдзе як мага далей. А калі квадрат, то яна ўткнецца ў адну сцяну, у другую і пакіне «дабро» ледзь не там, дзе спіць.

# Хуткія на аддачу качкі

**Многія сяляне і дачнікі займаюцца гадаваннем качак. Кожны імкнецца выбраць такую пароду, каб хутка расла і давала выдатнае пер'е, была ўстойлівая да халадоў і хвароб, умела знаходзіла корм «пад нагамі».**

На птушыным базары ў Ждановічах больш за ўсё прадаюць пекінскіх качак. А яшчэ так званых мускусных (гібрыд качак і індычак). Гаспадары расхвальваюць адных і другіх. Пекінскія, маўляў, «вучаць» індакачак лавіць шкоднікаў і ўвогуле знаходзіць травяны і земляны корм. А мускусныя, бы добрыя дамаседкі, прывучаюць «таварак» своечасова вяртацца дадому, класці яйкі не там, дзе напаткала неабходнасць, а менавіта ў гняздо.

Асаблівасцю «пекінак» з'яўляецца іх хуткі рост. Хіба гэта не казка, калі брыдкае качаня за нейкія два месяцы (ці крыху больш перыяд) дасягае 3 кг? «Мужчыны» важаць і таго больш — да 4 кг!

Індакачкі не такія хуткія. Дарослыя самцы могуць дасягаць глыбокай восенню 5 кілаграмаў! Самачкі, як і трэба, больш мініяцюрныя — да 2,5 кг. Але і самцы і самачкі пераўзыходзяць «пекінак» па смаку мяса. Усё нятлустае, вельмі дыетычнае, амаль салодкае.

Летам пекінскія любяць ваду. Падарожжы па водных прасторах іх так захапляюць, што і дадому могуць не вярнуцца. Ежы ім патрэбен мізэр. Усё здабываюць у вадзе. Мускусныя больш павольныя і абавязкова дамаседкі.

Нават у маразы (на вуліцы, напрыклад, мінус 10) пекінскія з задавальненнем гуляюць па лужках, плаваюць у палонках. Усё ж лепш ставіць ім ночвы з падагрэтай вадою. Можна абмежавацца адной «лазняй» на суткі. Паплешчуцца, пачысцяць пер'е і гуляюць, знаходзячы корм нават у... снезе.

Мускусныя качкі больш цеплалюбівыя. Ім мароз у два-тры градусы ўжо многа. Сядзяць, грэючы лапкі. У іх адсутнічае той цудоўны пух, які, бы знакамітыя хусткі з Арэнбурга, абараняюць пекінак.

Зімою качкі не патрабуюць шмат корму. Але рацыён абавязкова збалансаваны. У ім павінна быць усё неабходнае для развіцця. Падыходзяць: камбікорм, розныя мешанкі. А яшчэ капусны ліст, сена, розная пацяруха. Птушка выбера ўсё неабходнае. Адна адкіне, а другая падбярэ.

Абавязкова ў асобных месцах насыпаецца дробны гравій, мел і нават сапрапель. Дарослыя асобіны зімою ядуць нямнога. Ды і саміх іх нямнога — толькі для ўзнаўлення пароды.

Ці даюць пекінкі і мускусныя качкі прыбытак? Яшчэ які! Часта адна асобіна цягне на 100 і 200 тысяч. Вось і лічыце, калі статак складаецца з 30 асобін пекінскай пароды і столькі ж — мускуснай. Ні адзін пенсіянер столькі не атрымае за год, колькі прынясуць гэтыя ціхія птушкі.

# Дагледзім сад...

**У брашуры «Дары саду» («Для вас» № 19) дадзены самыя розныя падкормкі пладовага саду. Прывядзём яшчэ адну сістэму падкормак па галінках і зялёнаму конусу. Безумоўна, такія падкормкі не заменяць асноўнага каранёвага сілкавання. Калі не далі належнай дозы ўгнаенняў у зямлю, то ўсе астатнія падкормкі прыносяць тую ж карысць як прыпаркі мёртваму.**

Першы раз можна апрацаваць дрэвы вясною, калі снег толькі пачаў знікаць. Доза мачавіны самая вялікая — да 400 г на 12-літровае вядро вады. Апрацоўваць галінкі, ствол, лісце, якое апала вясною. У далейшым мачавіны браць не больш як 100 грамаў. Такіх апрацовак зрабіць да трох. Другая — пасля цвіцення і трэцяя — у сярэдзіне ці канцы чэрвеня. У ліпені можна смела выкарыстаць суперфасфат і сернакіслы калій: першага на вядро вады — 30—50, другога — 30 г. Калі суха, то рэчываў у раствор сыпаць на 5 г менш (можна апячы ліставы апарат).

Калі ў садзе спее добры ўраджай, арганізуюць глыбокія палівы. Нормы ў гэтай справе такія: чым старэйшае дрэва, тым больш вільгаці, але не больш за паўтары бочкі (300 літраў) пад дрэва. Межы дастатковасці — 2-3 вядры на кожны год жыцця. У 10-гадовым узросце дрэва атрымлівае бочку вады. Паліваць, безумоўна, не па паверхні, а ў глыбокія 20-сантыметровыя канаўкі. Лепш на перыферыі кроны. Там большасць актыўных каранёў.

# Дапамогуць «градкі»

**Межы продажу выпускаў брашурак для сялян і дачнікаў пашырыліся. Акрамя Мінска, дзе продаж наладжаны ў магазінах «Сельгасхімія» (Чырваназорная, 8) і «Сельгаскніга» (праспект Скарыны), наша выданне ёсць у магазіне «Сельгасхімія» Гомеля, раённых паштовых аддзяленнях Слуцка, Барысава, Оршы, Полацка, Лепеля, Наваполацка, Глыбокага, Шаркоўшчыны, Смалявічаў. Пытайце ў паштальёнаў, завітайце ў аддзяленні сувязі. Кошт аднаго экземпляра самы танны — 3000 рублёў.**

Можна заказаць выданні ў рэдакцыі. Але іх цана ўзрастае на столькі, колькі каштуе перасылка — 4000 рублёў адзін экземпляр, 3500 руб. — два і больш экземпляраў. У нас ёсць наступныя брашуры: № 15 (угнаенні, нітраты, насенняводства); № 16 (усё пра сяўбу і расаду); № 17 (як атрымаць тону памідораў і 500 кг бульбы з соткі, а яшчэ высокія ўраджаі перцаў, баклажанаў, фізалісу, тытуню); № 18 (агарод па-замежнаму ЗША, Англія, Чэхія); № 19 (усё пра сад —пасадкі, угнаенні, абрэзка, прышчэпкі і г. д.); № 20 (шкоднікі і хваробы саду і агарода); № 21 (кветкі ля дома, здабыткі ўмельцаў).

З любога паштовага аддзялення на разліковы рахунак газеты «Звязда» вышліце перавод з указаннем нумароў брашурак. Разліковы рахунак газеты такі: 3012210270016 код 739 у АКБ «Белбізнесбанк» г. Мінска. Адрас газеты: 220013 г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10А. «Звязда».

Разборліва ўкажыце зваротны адрас з індэксам, прозвішча, імя і імя па бацьку. Як толькі прыйдзе перавод, адразу ж высылаецца бандэроль.

ДАСЛОЎНА

# Ненулявыя гады Вячаслава Адамчыка

*Лаўлю сябе на думцы: чытаеш большасць твораў савецка-беларускіх пісьменнікаў і разумееш, што не ўсё напісанае застаецца. Аднадзёнкі. Вырабы дзеля кан'юнктурнай патрэбы часу. Многія пісалі адкрытую хлусню. На шчасце, не ўсе. Раманы Вячаслава Адамчыка «Чужая Бацькаўшчына», «Год кулявы», «І скажа той, хто народзіцца», «Кроў брата твайго» і сёння чытаць цікава і пазнавальна. Не толькі ў сэнсе расповяду пра жыццё беларускай вёскі за польскім часам, пры саветах і немцах, але і з-за тонкага разумення чалавечай псіхалогіі. Сведчанне таго, дарэчы, і выдатныя навелы пісьменніка. Асаблівай папулярнасцю творы лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, члена прэзідыума Саюза пісьменнікаў, Вячаслава Адамчыка карыстаюцца на радзіме — Навагрудчыне і Дзятлаўшчыне. Адтуль якраз напярэдадні нашай гутаркі ён і вярнуўся.*



**— Наколькі я ведаю, вы, Вячаслаў Уладзіміравіч, пакінулі родную вёску больш за сорак гадоў назад. Тым не менш, дзеянне ў вашых раманах адбываецца менавіта там. Кажуць: ніколі не вяртайся туды, дзе быў шчаслівы. Ды ўсе мы па-ранейшаму едзем дахаты, у тое месца, дзе мелі шчасце нарадзіцца ды пазнаць першыя радасці. Якой была цяперашняя паездка?**

— Сапраўды, псіхалагічна складаная рэч — пабачыць і пераасэнсаваць тое, чым жыў раней. Усё навокал новае: ад пакаленняў людзей да вывернутых з зямлі валуноў. Дарогі, па якіх некалі хадзіў, зааралі-ся, з'явіліся новыя пералескі. З маладога клёніка вырас магутны клён, а з белай хаты... апала тынкоўка. Прыгадаў, як менавіта праз акно гэтай хаты бачыў пажар дэпо. Яго падпаліў, пайшоўшы ў партызаны ў час вайны, слесар Снітко. Мяне ў той вечар найбольш уразіла чырвань жалеза, — гарэлі паравозы, завезеныя яшчэ за польскім часам... Гэта — убачаная мінуўшчына. Сённяшні дзень таксама вельмі сумны. Адчуваецца бядота. Хлопцы ў дэрмацінавых куртачках з цыгарэткай і на лёгкім падпітку, старыя з ліловa-сінімі насамі...

**— Вячаслаў Уладзіміравіч, у мяне складваецца ўражанне, што беларуская літаратура перажывае не лепшыя свае часы. Няма твораў, якія б прымусілі ўздрыгнуць і чалавека, і грамадства. Нібы існуе літаратура ў паралельным свеце, сама па сабе...**

— Я баюся даваць ацэнкі публічна. Сваё меркаванне, магчыма, можна запісаць у дзённік, бо суб'ектыўная ацэнка можа не адпавядаць сённяшнім рэаліям. А раптам мы яшчэ не заўважылі значнага твора, не ўчыталіся ў яго? Як і ў ракі, так і ў літаратуры, іншым разам — больш шырокае русла, часам — звычайнае, альбо ўвогуле перасыхае. Відаць, сёння літаратура не такая паўнаводная. Ды і адышоў час эпапей. Перавага аддаецца філасофскаму, гістарычнаму жанру. Але як свет не без добрых людзей, так і літаратура не без добрых твораў. У апошнім нумары «Маладосці» шчымліва ўразіла нізка вершаў нябожчыка Петруся Макаля. Высакародная артыстычная паэзія. Дарэчы, памятаю, як у студэнцкія гады мяне крануў ягоны верш «Жыта». У яго апошніх творах тая ж плаўнасць, музыкальнасць, шчырая танальнасць. Ён адышоў як чалавек, як паэт — застаўся...

**— У сваіх раманах вы пішаце пра час, калі былі яшчэ дзіцем. Здаецца, нібы адмыслова адхіляецеся ад дня сённяшняга...**

— Адкажу вопытам сусветнай літаратуры. Ні ў якім разе не дзеля параўнання. Леў Мікалаевіч Талстой таксама пачаў з дзяцінства. А вопыт, перажыты ў Севастопалі, быў перанесены ў «Вайну і мір». Вайна, якая закранула маё дзяцінства, давала больш яркі вобраз трагізму, напаткаўшага нашу вёску як сімвал краю. А малюнкі і пачуцці дзяцінства, пэўна, найлепш і перадаюцца ў сталыя гады. У любым творы павінен прысутнічаць вопыт чалавека. Цяпер збіраюся напісаць гістарычную аповесць, дзе раскажу пра сённяшні душэўны стан.

**— А які ён — сённяшні стан вашай душы?**

— Што будзе з краінай, з народам? Па якім шляху ідзём? У аповесці мяркую вярнуцца да часоў Льва Сапегі, Кміты Чарнобыльскага. Праз сваіх дзятлаўскіх персанажаў зрабіць паралелі. З другога боку, хочацца прыгадаць традыцыі тых жа Купера, Мэлвіла, Дэфо. Аповесць будзе авантурнай. Увогуле беларускай літаратуры бракавала займальнасці.

**— У штаце «Бярозкі» шмат вядомых празаікаў і паэтаў параўнальна маладога пакалення — Алесь Наварыч, Адам Глобус, Міраслаў Шайбак, Алесь Бадак... У чым вы бачыце адрозненне ў падыходзе да літаратуры іх і вас, калі былі ў такім веку?**

— У іх іншы аб'ектыў. Таму і свет успрымаюць інакш. Маюць больш грунтоўную адукацыю. Нельга нас параўнаць. Я жыў у вайну і сталіншчыну, што не магло не пакінуць свой жорсткі адбітак на характары і творчасці. Але, на жаль (я не бяру супрацоўнікаў «Бярозкі», а ўвогуле маладых беларускіх літаратараў), яны сапраўды нешта ўпускаюць. Здаецца, у іх меней упартасці і мэты дзеля стварэння важнага, неабходнага твора. У мяне была неадступнасць, калі садзіўся пісаць «Чужую Бацькаўшчыну». Мушу і пахваліць іх. Свет бачаць са сваіх — гарадскіх — пазіцый і вышынь. Іхняя вобразная сістэма ўжо іншага накірунку. Калі мая ішла ад песні, фальклору, вёскі, то ў іх — ад горада. Таму і арнамент прозы больш сціслы. Некалі Хемінгуэй сказаў пра Тургенева: я яго накаўтаваў. У тым сэнсе, што пазбавіўся ад шматлікіх прыметнікаў. Для маладых літаратараў характэрна больш лаканічная, кароткая, ёмкая фраза. Нават — пружыністая. Хаця і ўпускаюць плаўнасць, уласцівую майму пакаленню. Беларуская мова, мусіць, яшчэ не так дакладна сфарміравалася і жорстка не ўзаконілася як, напрыклад, нямецкая. Там фраза даўно адшліфавана. Яшчэ Лютэрам. Тым больш, над ёй працавалі Шылер, Гётэ, Гегель, Шопенгаўэр, Ніцшэ. Іхняя фраза як жалезны каркас. І нямецкаму пісьменніку вельмі цяжка павярнуцца ў ёй. Нам лягчэй. Маладое пакаленне ідзе да такога непарушнага каркаса.

**— Мне здаецца, малая колькасць цікавай літаратуры — ад побытавых клопатаў. Яшчэ нядаўна дзяржава падтрымлівала пісьменніка. І ён мог хоць бы не думаць пра кавалак хлеба. Цяпер жа прыходзіцца зарабляць любым чынам. Не да раманаў...**

— Праблема ў гэтым ёсць. Пісьменнік безабаронны. Мецэнацтва існавала яшчэ ў Старажытным Рыме. Але калі пад сваё крыло літаратара бярэ дзяржава, то яна хоча, каб ён выконваў яе заказы і быў падуладны, быў пісьменнікам «імя Горкага», як гэта заўважыў у сваіх дзённіках Прышвін. Так і было. Існаваў толькі сацрэалізм. Далей Прышвін піша: можа, сапраўдная літаратура і пачнецца тады, калі нікому не будзе патрэбна. Бо не стане прапагандысцкай. Пісьменнікі не могуць быць імя Талстога, Гётэ ці Хемінгуэя. Яны павінны быць самі сабой, са сваёю споведдзю, як Русо, ці з філасофскімі выказваннямі, як Ніцшэ.

**— На ваша пакаленне савецкі шаблон моцна паўплываў?..**

— Так. Бо ў рэдакцыях вымушалі мяняць канцэпцыю твора. Мне па раману «І скажа той, хто народзіцца» было 125 заўваг і правак. Праўда, звяртаючыся да Кастуся Ціханавіча Кірэенкі, я згаджаўся на іх, бо раман збіраліся аддаць ва ўсёмагутны і нязрушны інстытут гісторыі партыі. Тады твор увогуле не ўбачыў бы свету. А заўвагі пачыналіся з таго, што навошта адзін з персанажаў замест абраза на покуце вешае партрэт Сталіна. Але ж так сапраўды мой сваяк выказваў любоў да савецкай улады.

**— І гэткім чынам да твораў адносіліся параўнальна нядаўна. Дарэчы, неяк давялося прачытаць абвінавачанні ў адрас кіраўніцтва «Бярозкі» за карыстанне мяккім знакам паводле «Граматыкі» Тарашкевіча, а не той, што маем сёння.**

— Адразу адзначу: альбо чалавек два гады не трымаў часопіса ў руках, альбо сказаў гэта наўмысна. Нельга блытаць дзяцей, таму граматыка на старонках «Бярозкі» такая ж, як у школах. Хаця, бясспрэчна, беларуская мова скалечана сталінскай моўнай рэформай, пад якой змушаны былі падпісацца нават Купала і Колас. Зрэшты, смерць Купалы акупіла і гэты ўчынак, і вершы пра Сталіна. Калі нават энкэвэдысты падпіхнулі яго да самагубства, ён усё роўна не мог дыхаць затхлым паветрам сталінскай камеры. Тады літаратура стала вяртацца да прымітывізму. Знікла, як мы сёння кажам, паэзія высокага кшталту, яе замянілі прымітыўна-просты верш і прыпеўка. Беларусі належала наблі-жацца да Расіі. Працэс гэты прыспешвалі. Панаваў прымус, палітыка прыніжэння самабытнага, каларытнага слова. Выкінуць мяккі знак з падвойных зычных — не што іншае, як скалечыць беларускае слова. Думаю, вяртанне да яго напеградзе.

**— Вы пачыналі як навеліст. Некаторыя крытыкі лічаць, што менавіта апавяданні ў вас лепш выходзілі. Чаму іх больш не пішаце?**

— Па-першае, не ўсе крытыкі так лічаць. Меншасць, напэўна. Па-другое, у пэўным плане я іх пішу ў дзённіках. Там бясспрэчна прысутнічаюць невялікія навелы. Што датычыцца рамана, то ён вымагае надзвычайнай самааддачы і найвялікшай дысцыплінаванасці. Якія б гулі напярэдадні не былі, раніцай ты мусіш садзіцца за стол. Раман — знітаванасць чалавечых лёсаў, і важна гэту нітачку не парваць, не згубіць. Аддаўшы іх напісанню 18 гадоў свайго жыцця, я выйшаў у свет трохі іншым чалавекам. Без пачуцця пастаяннага абавязку, але і абрабаваным. Тады напісаў п'есу «Раіса Грамычына», займальную аповесць «Падарожжа на Буцыфале». Пасля чаго трохі акрыяў. Напісанне раманаў стала стратай часткі сябе. Літаратара нельга дакараць і папікаць жанрам. Трэба ацэньваць мастацкі ўзровень. Адзін шаноўны чалавек, навеліст, толькі ўбачыць падзагаловак «раман» і ўжо настройваецца адмоўна. Баюся, у яго не хапіла творчай цярплівасці, калі хочацца — прымусу штодзённа быць далакопам, штодзённа ў цёмным забоі здабываць чорнае ці каляровае золата.

**— Вы — член прэзідыума Саюза пісьменнікаў. Якія змены назіраеце там сёння?**

— Некалі ні адзін сход не праходзіў без апякунства ЦК. Усё ўзгаднялася. Сучкі згладжваліся пiларамай. Арганізацыя пісьменнікаў і стваралася Сталіным, каб трымаць яе ў шорах і каб яна самааддана служыла Сістэме. Цяперашнюю сітуацыю ацаніць мне цяжка. Саюзам ужо так не кіруюць, з другога боку — ён прывык, каб крыху наглядалі, падтрымлівалі фінансава, кватэрна, каб была разнарадка па выданню шматтомнікаў. Гэта Пушкін сабе «памятник воздвиг нерукотворный», а ў нас многія пасля безлічы ўзнагарод паглядалі за акно ў двор, ці не пачынаюць устанаўліваць яго бронзавы бюст. І гэта — не жарт.

**— Вячаслаў Уладзіміравіч, чаго вы больш за ўсё баіцеся?**

— Абыякавасці людзей да саміх сябе, да сваёй мовы і дзяржаўнасці. Кажу гэта з усёй адказнасцю — нацыянальнага нігілізму.

**Гутарыў Міхась ТАЛОЧКА.**

РЭДКАЯ ПРАФЕСІЯ

*У Гродне ёсць паляўнічы магазін, а пры ім зброевая майстэрня. Працуе тут ювелір, зброевых спраў майстар — Уладзімір Васільевіч Платонаў. Якую толькі зброю ён не аднаўляў — і старую, і новую. Цудоўна ведаючы фізічныя і механічныя ўласцівасці металу, ён вырабляе унікальныя механізмы і дэталі для паляўнічых стрэльбаў. Ён робіць таксама цудоўныя прыклады і цэўі для стрэльбаў. Валодаючы тэхнікай марэння драўніны, ён дабіваецца патрэбнага тону гэтых вырабаў. Звяртаюцца да яго не толькі нашы паляўнічыя, але і прафесіяналы з краін блізкага і далёкага замежжа. Адно хвалюе Уладзіміра Васільевіча — няма ў яго вучня, які б пераняў яго вопыт і майстэрства. А справа ж яго патрэбная: толькі ў нас у Беларусі сотні тысяч аматараў палявання.*

**Уладзімір ФЯДОТАЎ.**

## ДАПАМАЖЫЦЕ

Моцна хварэю, дыягназ: вертабрагенная таракалгія, лекі не дапамагаюць. Можа, хто ведае народныя сродкі лячэння, падкажыце.

***Мой адрас: 225910 Брэсцкая вобласць, г. Маларыта, Савецкая, 73, кв. 14. Ганна Аляксандраўна Ф.***

## РАДЫЁ, 18 снежня

*Апошнія навіны: 9.00, 10.00, 12.00, 13.00, 15.00, 19.00, 22.00, 23.50.*

9.00 — «Сёння ў газетах». 9.15 — «Па родным краі». На сувязі — Брэст. 9.30 — да 75-годдзя з дня нараджэння беларускага пісьменніка С. Александровіча. «Шчодрасць душы». Радыёрасказ. 10.05 — «Маладзёжнае радыё прапануе...» 10.35 — «Для тых, хто дома». 11.35 — працяг інфармацыйна-аналітычнай праграмы «Прамень». 13.10 — «У абедзенны перапынак». 14.00 — «Марым, слухаем, усміхаемся». 15.10 — музычны канал. 16.05—18.00 — «Радыё «Карусель» — дзецям і падлеткам». 16.05 — «Прэзумпцыя». Маральна-прававая праграма па праблемах дзяцей. 16.45 — «Казка — мудрая падказка». 17.05 — для малышоў. «Вячоркі-вячоркі». Пра свята ў дзіцячым садзе № 457 г. Мінска. 18.00—18.40 — перадачы абласных тэлерадыёаб'яднанняў. (18.00—19.00 — «Поступ часу». Вячэрняя праграма радыёстанцыі «Сталіца»). 19.00 — «Постфактум-радыё». 19.50 — вячэрняя казка. 20.00 — «Нам добра з вамі». Літаратурна-публіцыстычная праграма. 22.10 — «Маладзёжнае радыё прапануе...» 0.02—1.00 — «Пятая пара года». Музычная кампазіцыя па песнях.

## ВІНШАВАННІ

*Віншуем з 60-годдзем сястру **Анастасію Драгун.** Жадаем моцнага здароўя і шчасця ў жыцці.*
Высоцкія Рома і Яўген з Гродна.

*Віншуем **Вольгу Віктараўну Дрэвіла** з днём нараджэння. Жадаем быць заўжды здаровай, шчаслівай і вясёлай, поспехаў у вучобе і жыцці.*
Сям'я Маліноўскіх, *г. Гомель.*

*Веру Іванаўну Патоцкую** віншуюць калегі па працы з днём нараджэння. Жадаем шчасця, здароўя, поспехаў у працы, дабрабыту.*
*г. Новалукомль.*

*Віншуем з днём нараджэння дачушку **Вольгу Віктараўну.** Жадаем добрага здароўя, радасці і шчаслівай дарогі ў жыцці.*
Бацькі Дрэвіла.

*Ад усёй душы і шчырага сэрца віншуем **Дзіяну Васільеўну Мароз** з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, бадзёрасці, дабрабыту.*
Калегі, *Гвозніца Брэсцкай вобл.*

*Віншуем з днём нараджэння **Святлану Станіславаўну Глацько.** Жадаем здароўя, шчасця, кахання.*
Вольга, Люда, *в. В. Сяло.*

*Сардэчна віншуем дарагога любімага сына і брата **Вадзіма Мікалаевіча Сераду** з 19-годдзем. Жадаем здароўя, шчасця, любові. Хай збудуцца ўсе твае мары.*
Бацькі, сёстры і браты.





КРЫМІНАЛ

# РАБАЎНІКІ

Вясной 1996 года супрацоўнікі мінскага крымінальнага вышуку затрымалі ўзброеную групу злачынцаў, ключавой фігурай якой была чароўная асоба Кацярына. «Альянс» займаўся разбойнымі нападамі на кватэры грамадзян, выкарыстоўваючы агнястрэльную і газавую зброю.

6 лютага 1996 года цішыню ў адной з кватэр г. Мінска па праспекце Пушкіна разарвала трэль дзвярнога званка. У кватэры ў гэты час знаходзіліся дачка гаспадароў Даша, вучаніца 10 класа, яе малалетні брат Жэня і аднакласніца Дашы — Настасся. Падышоўшы да ўваходных дзвярэй, Даша пацікавілася: «Хто там?» Прыемны жаночы голас, назваўшы дзяўчынку па імені, папрасіў адчыніць дзверы. Нічога не падазраваючы, Даша адчыніла ўваходныя дзверы. Разам з незнаёмай дзяўчынай 18—20 гадоў у кватэру ўварваліся чацвёра маладых мужчын, адзін з якіх быў з пісталетам, другі — з нажом. Звязаўшы перапалоханых дзяцей вяроўкай, злачынцы вынеслі з кватэры відэарадыётэхніку, залатыя ювелірныя вырабы, насільныя рэчы.

Праз месяц аналагічная карціна паўтарылася ў кватэры мінскага прадпрымальніка М. Зноў званок у дзверы, зноў прыемны жаночы голас, назваўшы гаспадыню па імені, папрасіў адчыніць дзверы, быццам бы для перадачы сяго-таго ад мужа. І зноў «дама» ў акружэнні трох «кавалераў» з абрэзам паляўнічага ружжа на парозе кватэры. Каб не пакінуць «пальчыкі», бандыты прымусілі гаспадыню кватэры збіраць і пакаваць грошы, рэчы, залатыя ювелірныя вырабы з шафаў, тумбачак і сталоў. Самой давялося нават люстру здымаць. Усяго ўзялі рэчаў на 40 мільёнаў рублёў.

Праз тыдзень разбойная брыгада нанесла візіт у адну з кватэр па вул. Ландэра ў г. Мінску. Тут пацярпеўшым стаў дырэктар аднаго з малых прадпрыемстваў Ф. «Улоў» злачынцаў у гэтай кватэры склаў ні многа ні мала — 55 мільёнаў рублёў.

22 сакавіка 1996 года «Кацярына і кампанія», усё па тым жа сцэнарыі, сабралася зазірнуць у адну з кватэр па праспекце Ф. Скарыны, 127. У кватэры ў гэты час знаходзіўся Мікалай, вучань 11 класа. Пра хлопца можна сказаць, што яго «Бог сілай не пакрыўдзіў». Побач з ім, аблізваючыся, сядзеў верны сабака, бо Мікалай разбіраў на кухні мяса.

Таму на гэты раз перад ашаломленай бандай паўсталі ашчаціненыя сабака і «хлопчык» з паўметровым нажом у руках, з якога капала кроў. Па прызнанню рабаўнікоў, яны падумалі, што перад імі маньяк. Першымі прэч кінуліся кавалеры, а за імі — дама. Аднак яе паспеў дагнаць Мікалай, скеміўшы, у чым справа. Ну, а далейшае, як гаворыцца, было справай аператыўнай тэхнікі і майстэрства.

Усе да аднаго «славутыя» ўчынкі банды выяўлены. Нядаўна крымінальная справа Фрунзенскім РАУС горада Мінска перададзена ў народны суд, у сувязі з гэтым мы не называем сапраўдных прозвішчаў «герояў». Магу сказаць, што акрамя Кацярыны, якая кінула мужа-мінчаніна, а дзіця пакінула пад наглядам бацькоў у вёсцы, да крымінальнай адказнасці прыцягваюцца чацвёра яе «джэнтльменаў».

Многія злачынцы знаходзяць сваіх будучых ахвяр, вывучаючы аб'явы ў газеце з прапановамі аб продажы тэлевідэатэхнікі, іншых каштоўных рэчаў. Зламыснік намячае «аб'ект», звязваецца з ім, таргуецца, стараючыся любой цаной дамовіцца так, каб яго запрасілі ў кватэру.

Менавіта такім чынам быў учынены разбойны напад на кватэру братоў Фінскіх, якія пражывалі ў Савецкім раёне сталіцы і займаліся продажам тэлевідэатэхнікі. Адзін са злачынцаў пад выглядам пакупніка наведаў кватэру прадаўцоў, вывучыў абстаноўку, а затым на наступны дзень з падзельнікамі абрабаваў кватэру.

У горадзе Мінску атрымаў распаўсюджанне і такі від разбою, як напад на ўладальнікаў відэакамер, якія аказваюць паслугі па відэаздымцы на даму сямейных святаў. Злачынца запрашае ахвяру ў кватэру, якую ён здымае на некалькі дзён, рабуе яго і знікае. Спробы ж высветліць у гаспадара кватэры, каму ён яе здаваў у паднаём, поспеху не прыносяць.

30 студзеня 1996 года ў кватэры 61 дома 45 па вул. Валгаградскай пазбавіўся відэакамеры японскай вытворчасці дырэктар ПКФ «Рэміка» К. Рэмішэўскі, дзе яе ў яго адабралі 4 неўстаноўленых злачынцаў. Гаспадыня кватэры А. Вайцяхоўская 29 студзеня здала яе на тыдзень двум невядомым, якія пакінулі ёй у залог чужы пашпарт.

190 долараў ЗША, 500.000 рублёў і пенсіённага пасведчання пазбавіўся пенсіянер Б. Фядкоў у кв. 26 дома 8, корп. 3 па вул. Кальцова, куды ён прыйшоў, каб купіць тэлевізар. Аб'яву аб яго продажы ён прачытаў у адной з рэкламных газет. Уладальнік кватэры Ф. Кушчук здаваў яе працяглы час нявыяўленым асобам.

Дарэчы, многія, паведаміўшы ў рэкламнай газеце нумар свайго хатняга тэлефона, наіўна думаюць, што гэта гарантуе ім інкогніта. Час ведаць, што нумары кватэрных тэлефонаў з адрасамі іх уладальнікаў даўно перапісаны спрытнымі дзялкамі на дыскеты і прадаюцца.

Такі піералік прыкладаў можна працягваць бясконца. Але што характэрна: у ходзе расследавання гэтых і шэрага падобных злачынстваў было ўстаноўлена, што ў многіх выпадках пацярпеўшыя праявілі бесклапотнасць і саманадзейнасць, не прытрымліваліся элементарных правілаў бяспекі.

**Мікалай КРАСНЕЎСКІ,**
**старшы следчы Следчага ўпраўлення ГУУС Мінгарвыканкома.**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 18 снежня

### Беларускае тэлебачанне

**8.00** Навіны. **8.15** «Паляванне ў чужой краіне». Дак. фільм. **8.30** Вострыя вугал. Прававая праграма па пісьмах гледачоў. **9.00** Тэлебачанне — школе. Гісторыя Беларусі. 7-ы клас. Далучэнне Беларусі да Расійскай імперыі. **9.25** Камп'ютэрны палігон. **10.00** «Трапічная спёка». Тэлесерыял (ЗША). **11.00** IV Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-96». Аўтарскі канцэрт паэта Уладзіміра Някляева. Частка 1-я. **12.15** Відзьма-нявідзьма. **13.15** Класіка на экране. «Блуканне па пакутах». Трохсерыйны маст. фільм паводле трылогіі А. Талстога. 1-я серыя «Сёстры». **15.00** Навіны. **15.10** «Сінюшчын калодзеж». Кароткаметражны маст. фільм для дзяцей. **15.40** «Востраў натхнення». **16.10** «А дзе мне ўзяць такую песню...» Дак. фільм Беларускага тэлебачання. **16.30** Беларускі мерыдыян. Падарожжа па Пружаншчыне. **17.00** Крэда. Акцыяніраванне дзяржаўных прадпрыемстваў. **17.20** Госці ў хату. Да Нацыянальнага свята Японіі. **17.50** Майстэрня. Мастак Іван Дмухайла. **18.20** Музычны антракт. **18.35** Эканамікст. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам). **19.00** «Музычная абойма». Беларускі хіт-парад. **19.05** Супергол. **19.35** «Трапічная спёка». Тэлесерыял (ЗША). **20.35** «Хто гэта?» Тэлегульня. **20.40** Калыханка. **21.00** Панарама. **21.55** Аўта-парк. **22.20** Л. Гузеева, М. Міхалкоў у маст. фільме «Жорсткі раманс». 1-я серыя. **23.30** Каралеўскае паляванне. **0.10** Навіны.

### ГРТ

**11.00** Навіны. **11.10** У эфіры Міждзяржаўная тэлерадыёкампанія «Мір». «Кантакт — дзелавое супрацоўніцтва краін Садружнасці». **12.05** «Маёр Віхар». 1-я серыя. **13.15** «Як здароўе, братка Ліс?» Мультфільм. **13.25** Брэйн рынг. **14.00** Навіны. **14.20** «Касмічныя выратавальнікі лейтэнанта Марша». Мультсерыял. **14.45** Кактус і К. **14.55** До-мі-соль. **15.10** Покліч джунгляў. **15.40** «Карын і яе сабака». Маладзёжны серыял. **16.05** Тэт-а-тэт. **16.30** «Вакол свету». Па старонках перадачы «Клуб падарожнікаў». **17.00** Навіны. **17.15** «Новая ахвяра». Серыял. **18.05** Надвор'е. **18.10** Гадзіна пік. **18.35** «Угадай мелодыю». Тэлегульня. **19.00** «Парыжскія тайны Эльдара Разанава». **19.45** Спакойнай ночы, малышы! **20.00** Час. **20.40** Праграма перадач. **20.45** Юрый Нікулін у фільмах «Самагоншчыкі» і «Калі дрэвы былі вялікія». **23.00** Навіны. **23.10** Баскетбол. Адборачны матч чэмпіяната Еўропы-97. Зборная Расіі — зборная Эстоніі. **0.45** Прэс-экспрэс. **0.55** Праграма перадач.

### «Расія»

**7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 23.00** Весткі. **7.20, 9.50, 23.25** Тавары — поштай. **7.30** Ранішні экспрэс-2. **8.00** Рэтра-шлягер. **8.25** «Дарагая рэдакцыя...» **8.55** «Санта-Барбара». Маст. фільм. **16.20** Блак-нот. **16.35** «Чэленджэрс». Серыял для падлеткаў. **17.05** Тэлечасопіс «Здароўе». **17.15** Астралогія кахання. **17.45** «Вяртанцы». Дак. фільм. Частка 2-я. **18.10** Клуб губернатараў. **18.40** Асабліва важныя персоны. **19.30** «Санта-Барбара». Маст. фільм. **20.30** Клара Новікава ў праграме «Бочка мёду». **21.05** Надвор'е на заўтра. **21.10** Юрый Нікулін у фільме «Дваццаць дзён без вайны». **23.35** Год і стагоддзе Дзмітрыя Шастаковіча. **0.15** Музыка ўсіх пакаленняў. **0.30** Хто на што здатны.

### Санкт-Пецярбург

**11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55** Інфарм ТБ. **12.10** «Гісторыя кахання». Серыял. **13.00** Тэрмін адказу — сёння. **13.30** Парады садаводам. **13.40** «Асенні Ленінград». Тэлефільм. **14.15** «Забойны аддзел». Серыял. **15.10, 20.45** Тэлеслужба бяспекі. **15.25** Асабістая справа. **16.10** «Чарадзей». Маладзёжны серыял. **16.35** «Тэлекампакт». Музычнае шоу. **17.15** Скарбы Пецярбурга. Рускі музей. **17.35** Паказвае Ленінградская абласная тэлекампанія. **18.40** Вялікі фестываль. **19.15** Спорт. **19.25** «Гісторыя кахання». Серыял. **20.15** «Пажывём—пабачым». Серыял (Расія). **21.00** «Забойны аддзел». Серыял. **22.05** Падзея. **22.20** Спартыўны агляд. **22.30** «Дварцовыя тайны». Прэм'ера дак. серыяла (ЗША, Вялікабрытанія). 8-я серыя. **22.55** «Дождж». Тэлеспектакль паводле апавяданняў І. А. Буніна.

### НТБ

**5.00** Сёння раніцай. **9.00** Джон Ларакет і Кірсці Элі ў фільме «Вар'яцкі дом» (ЗША). **10.30** Праграма для дзяцей. «Вуліца Сезам». **11.00, 13.00, 15.00** Сёння ўдзень. **12.00** Расійскія універсітэты. **13.15** Вялікая «Часінка». **15.30** Дыстанцыя 60. **16.30** «Блакітнае дрэва». Маст. фільм (Італія—Аргенціна). **17.30** Праграма для дзяцей. «Вуліца Сезам». **18.00, 21.00** Сёння вечарам. **18.35** Герой дня. **19.00** Свет кіно. Бернар Жырадо і Жэрар Ланвен у фільме Патрыса Леконта «Спецыялісты» (Францыя). **20.40** Рускі альбом. Група «Чайф». **21.35** Гадзіна серыяла. Маст. фільм «Пані следчы». 4-я серыя «Невінаватыя» (Францыя). **22.30** Часінка. **23.00** Сёння апоўначы. **23.20** Кафэ «Абломаў».



ЗАСНАВАЛЬНІКІ: Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».
Рэгістрацыйны нумар 1.

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».
ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.
Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.
Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 94.665 Індэкс 63850.
Зак. № 7895.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12